# БЕЛАРУСКІ ЗВОН

## ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі:
Вільня. Віленская вул. 33.
Рэдакцыя адчыняна: 10—2 штодня апрача сьвяточных дзён.

Цана кожнага нумэру 5 м.
Падпіска на 3 месяцы каштуе 50 м. (з дастаукай да хаты).
Цана абвестак: 5 м. за радок пэтыту (на апошняй стр.).

Год I. Вільня. Нядзеля, 17 красавіка 1921 г. № 4.


## *Вільня, 17 красавіка 1921 г.*

18 красавіка г.г. у Бруссэлі зьбіраецца польска-літоўская конфэрэнцыя. Калі праўду казаць—не *яна* зьбіраецца, а *яе* зьбіраець Ліга Народаў, якая ўсімі спосабамі стараецца пагадзіць паваджаных.

Вось ужо, глянь, колькі месяцаў Ліга Народаў стараецца гадзіць літвіноў з палякамі, але дарма—нічога ня выходзіць. Раяць плебісцыт, раяць суд (арбітраж)—нічога не памагае. Кожная старана упёрлася на свіам і адступіцца ані шагу ня хоча: давай мне Вільню—тады пагутарым!

Абедзьве стараны быццам-то й згаджаюцца з тым, што трэба было-б ісьці разам, што можна было пайсьці на ўступкі, на компроміс, найсьці нейкі спосаб жыцьця, але кожная адкрыта заяўляе—зраблю гэта тады, як Вільня будзе маёю.

Кожны даказвае, што Вільня толькі яго—больш нічыя.

Літвіны кажуць—Вільня іхняя сталіца, яе заснавалі літоўскіе князі, яны маюць на яе гістарычнае права. Нічога, што ў Вільні шмат палякоў: гэта-ж тые самые літвіны, толькі гутараць папольску, але навучацца і палітоўску, а за гадоў 20—30 пачуеш на вуліцах адну літоўскую гутарку. Ды апрача ўсяго ў Вільні блізка палавіна жыхароў—гэта жыды, а жыды прыхіляюцца да Літвы. Жыдом дасца нацыянальная аўтаномія, усе правы, і яны ва ўсім падтрымаюць літвіноў. А беларусы? Беларусам—таксама аўтаномія... абецаецца. Не зьвяртайце, беларусы, увагі на тое, што цяперашняе міністэрства беларускіх спраў у Коўне—гэта экспозытура русыфікацыі і нямецка-чорнасоценскай інтрыгі. Гэта усё нічога, пераменіцца, як дастанем Вільню, а тымчасам знайце сваё дзела і на ўвесь сьвет крычэце процiў палякоў. Як дастанем Вільню, кажуць далей літвіны, і ўмацуемся тутака, дык мо' й з Польшчаю пагаворым аб нейкіх умовах, саюзах, фэдэрацыі набет — хто ведае, што будзе. А тымчасам Вільня нам, нам, нам...

Што датычыць палякоў, дык адны з іх і гаварыць ня хочуць аб нейкіх уступках—умовах, а другіе хочуць вясьці гэтые гутаркі.

Першые нікога і нічога апрача палякоў і польскасьці навокал сябе ня бачуць. Жыдоў яны наогул за людзей ня маюць, а значыць з імі лічыцца няма што. Літвіноў жменька не вялічкая — можна задусіць. А беларусы — якіе там беларусы! гэта адна выдумка, ніякіх беларусаў няма і ніколі ня было!—Але жыцьцё само лезе ў вочы, і сіла беларускага руху пачынае палохаць гэтых паноў; яны „няўрымствуюць“, пачынаюць лаіцца і данасіць. Заплюшчыўшы вочы і заткнуўшы вушы, галосяць яны як мага: няма беларусаў, няма! усе тутэйшые людзі — сяляне і мястовые — прывезены з Польшчы польскімі каралямі і панамі, або—рабскага заводу, патомкі узятых у палон літоўскімі князямі палякоў. (Ня верце, беларусы, гэтай брахні: вы патомкі вольных крывічоў!)

Палякі другога абозу, што стараюцца гаварыць з літвінамі ў справе Вільні, маюць малы ўплыў на ход выпадкаў, або фактычна ставяць літвіном той самы варунак: Вільня нам! Кажуць, што трэба *спачатку* Вільню прылучыць да Польшчы, а пасьля ўжо вясьці гутаркі з літвінамі... каб яны ўвайшлі ў фэдэрацыю з Польшчай.

Літвіны, ведама, ня могуць згадзіцца на тое, каб страціць Вільню, ды йшчэ йсьці на фэдэрацыю з Польшчай.

І вось ствараецца бязвыхаднае палажэньне. Справядлівы плебісцыт устрсіць немагчыма, на арбітраж ніводная старана

не згаджаецца, застаецца — бруссэльская конфэрэнцыя, якая таксама ні да чаго не давядзе. Мажа меч разрубае гэты зблутаны вузел? Але, меч можа разрубаць, але да чаго гэта павядзе — хай падумаюць аб гэтым абедзьве стараны. Мы глыбака перакананы, што пры такім разьвязаньні справы быў-бы tertius gaudens, г. ё—радаваўся-б трэцьці. А гэтым трэцьцім ёсьць нямецка-бальшавіцкі (рэакцыйна-царскі?) саюз, якога лятуценьнем было і будзе раздавіць Польшчу, а за ёю Літву, Латвію і ўсе меншые народы. Лёс Грузіі хай будзе прасьцярогай і безупынным клічам да згоды.

## Успаміны і думкі.

Было гэта ўлетку і ўвосень 1905 году. Беларуская Соцыялістычная Грамада і Польская Соцыялістычная Партыя былі добрымі прыяцелямі. П. П. С., як арганізацыя старэйшая і дужэйшая, памагала у першых кроках Грамады. Аднаму з сябраў Грамады памагла прабрацца ў Кракаў, навучыцца там друкарству і вярнуцца дамоў. Грамада з свайго боку не асталася ў даўгу: два месяцы—лістапад і сьнежань 1905 году—працаваў друкар Грамады ў двох з друкаром П. П. С. у Вільні ў патаёмнай друкарні на Бакшце.

Побач з адозвамі П. П. С. друкаваліся там і адозвы Грамады з клічам аб незалежнасьці Беларусі і першые рэвалюцыйные песні сьв. пам. „Цёткі"—Пашкевічанкі. У друкарні была „амэрыканка" і работа ў двох ішла добра: за два месяцы было адбіта агульным лікам 60.000 экз. рожных адозваў і іншай рэволюцыйнай літэратуры.

Пасьля ад сакавіка 1906 году Грамада ўжо мела сваю друкарню ў Менску. Праўда з тэхнічнага боку яна была горш пастаўлена, друкар, той самый пэпэсоўскі супрацоўнік, працаваў адзін і друкарскіе прылады былі прасьцейшые,—але ўсёж-такі друкарня пратрывала блізка паўтара году, бо да жніўня 1907 году, калі была зьліквідавана самой Грамадой з прычыны агульнага занепаду рэволюцыйнага руху, адходу працаўнікоў ад рэволюцыйнай работы, а сымпатыкаў ад помачы гэтай рабоце і дзеля гэтага нястачы грошай на работу. Той час, 1906—1907 г. гэта быў час калі ўплывы Грамады на вёсцы (прынамсі ў Меншчыне) былі мацнейшые за ўплывы іншых партыяў, ды і ў самым Менску Грамада займала пачэснае месца.

Мы тут ня думаем даць абраз усяго тагачаснага беларускага рэвалюцыйнага руху, а толькі хочам зьвярнуць увагу на адзін бок яго—супрацоўніцтва беларускай і польскай рэволюцыйнай дэмократыі.

Цяпер польскіе дэмократычные партыі, у тым ліку і соцыялістычная, ідуць іншым шляхам— яны заняты сваімі нацыянальнымі мэтамі, кажуць, як у Рызе, што ня хочуць разьбіваць свае галовы за незалежнасьць беларусаў і ўкраінцаў, а цешаць нас, што польскі рабочы кляс, дужэйшы і болей сьвядомы за наш, здабудзе большую свабоду ў дзержаве польскай, якой скарыстаемся і мы. Тымчасам гэтые партыі ня хочуць бачыць прыгнечэньня і дэморалізацыі беларускага народу з боку польскай адміністрацыі, а праз тое і дэморалізацыі польскага грамадзянства, частку якога складае гэ-

Францішк Аляхновіч.

# НЯСКОНЧАНАЯ ДРАМА

пьеса ў 4-х актах.

(Гл. № 1, 2, і 3)

ЯДЗЬКА. Дык як-жаж будзе? Я ўжо ня маю сіл жыць далей так, як дагэтуль... Дык-жа цяпер яшчэ ёсьць дзіця, расходы вялікшые... Я ўжо не магу паступіць на службу, бо ў хаце работы будзе шмат... Дык як-жа жыць?

ВАСІЛЬ. Нічога, Ядзечка, ня сумуй, не маркоцься! Вось ужо вайна канчаецца, з таго боку фронту даходзяць да нас добрые чуткі... А скора я кончу сваю драму...

ЯДЗЬКА. Э!.. Твая драма нас не накорміць!

ВАСІЛЬ. Не кажы так, Ядзька, не кажы!. Хто ведае!.. Я толькі гэтым жыву, гэтай надзеяй.. Скончу драму—будзе слава, будуць грошы—ўсё! Ох, каб толькі вырвацца з гэтай Вільні! Зачынілі нас немцы тутака, як у клетцы, адарвалі нас ад усходняй Беларусі—і рабі што хочаш!.. Іншы раз дык проста думаецца прабрацца неяк праз фронт: там — я думаю—кіпіць жыцьцё, там разьвіваецца шырокая беларуская работа!..

ЯДЗЬКА (падымаецца крыху на падушцы). Як гэта: праз фронт?—А як-жаж я? А як-жаж мяне кінеш з дзіцянём?

ВАСІЛЬ. А вось аб тое й ідзе! Каб не дзіця—даўно-б я птушкай паляцеў адгэтуль.

ЯДЗЬКА. Ну што-ж! Калі так рвешся „ляцець",—ляці! Пакінь мяне з дзіцянём, калі ў цябе няма сумленьня—і ляці.. Я ведаю, што сэрца ў цябе няма... Дзеля таго ты мабыць і службы ніякай ня хочаш, што думаеш „ляцець" ад мяне...

ВАСІЛЬ. Эх, Ядзька, як ты мучыш мяне! Дык-жа ня кіну, не! Я-ж гэтага не казаў!... Не! буду тут сядзець пры табе халодны, галодны, не скрануся з месца, не, не!

ЯДЗЬКА. Ах, які-ж ты эгоіст! Ты думаеш заўсёды толькі аб сабе. Не забывайся, што ў горшых муках я жыву... Аба мне дык ты зусім ня памятаеш—а толькі аб сабе...

ВАСІЛЬ. Ах, Ядзька, кінь ужо! Годзі! (са злосьцю).Буду тут сядзець пры табе, буду тут нянькай, прачкай, спэкулянтам, чыноўнікам, — толькі годзі ўжо гутаркі аб гэтай жудасьці... Хочацца на момант забыцца аб усім, хочацца супачыць душой, хочацца ўцячы ад гэтага гора ў край фантазіі, творчасьці... Хочацца хоць на момант супачыць у сьвеце сонечных вобразоў!... Ах, каб цяпер мець сьвечку,—пісаць!..

ЯДЗЬКА. Ціха!... Во ўжо дзіця разбудзілося,

та адміністрацыя; яны моўчкі падтрымліваюць гэты нарадак. Адна толькі група безпартыйная, ці зложаная з людзей рожных партыяў, якая гуртуецца пры часопісі „Przymierze“, ясна разумее сувязь свабоды ў самой Польшчы з незалежнасьцьцю прыгнечаных дагэтуль народаў—украінскага і беларускага і безупынна скіроўвае увагу польскага грамадзянства на гэта.

Справа незалежнасьці Беларусі — гэта чарговая справа ня толькі беларускай, але і польскай дэмократыі. Нельга адмахнуцца ад яе, сказаўшы: нехай сабе будзе, ці ня будзе Беларусь нагдзе за Бярэзінай, ці ў Менску, зусім ня лічучыся з беларускім народам, навет фактычна ня прызнаючы істнаваньня беларускай нацыянальнасьці і гледзячы на беларускіе „тэрэны“ толькі як на польскую колёнію.

Беларуская дэмократыя можа сказаць польскай: вашы адносіны да нас — гэта частка беларускай справы. С Польшчай, без Польшчы, ці проці Польшчы беларускі народ здабудзе сабе незалежнасьць. Аднак справядлівые і шчырые адносіны з вашага боку да нашай справы могуць шмат скараціць шлях беларускага народу да яго свабоды ды і вам можа будзе менш „балець галова“. Не прымушайце беларускі народ зварачываць вочы на ўсход, ці яшчэ кудысьці. Няхай свабода для его ідзе з заходу на ўсход, а не наадварот. Карыстайцеся „перадышкай“, якую мае польскі народ, не дзеля таго, каб перэрабіць беларусаў на палякаў, бо гэтага не пасьпеюць і ня здолеюць зрабіць вашы народаеды пры вашай маўчлівай згодзе. Яны патрапяць толькі кінуць беларусаў у варожы да Польшчы стан. Прывяжэце беларускі народ пашанай да яго правоў на ягоную зямлю, да яго самабытнага нацыянальнага вобліку і жыцьця ды памаччу ў яго нацыянальным адраджэньні і арганізацыі яго дзяржаўнасьці.

Аганёк.

# Што аб нас пішуць.

П. Ян Обст у сваіх „Віленскіх Лістах“ да Варшаўскай „Rzeczpospolita“ы, апісываючы тутэйшые адносіны абліў брудам і фальшам усіх не-эндэкаў. Як калісь царскай школы расейскі салдат на пытаньне: хто твае ўнутраные ворагі,—вымуштрована адказваў: палякі і студэнты,—гэтак і п. Обст мае сваю завучаную, але трохі даўжэйшую формулу: фэдэралісты, літвіны, жыды і... беларусы. Праўда, што датычыцца беларусаў, дык ён не называе нас выразна беларусамі, але расейцамі—эмігрантамі з Бальшавізіі, якіе, „зьнюхаўшы справу і назнаўшы нашу (польскую) слабасьць, усе без вынятку прыкідаюцца беларусамі, гэткім чынам ўшчамляюцца да розных ўрадовых установ, займаюць самые даходные (!—Рэд.) становішчы, глаўным чынам у акцызе і на чыгунцы, якую адкрыта абкрадываюць, (? !—Рэд.) адчыняюць свае школы, вядуць барацьбу з усім што ёсьць польскае“...

Далей, кажучы аб справах касьцёльных, піша, што біскуп самавольна ды супроць волі польскага насяленьня аддаў касьцёл Боніфратраў беларусам.

Гэта для нас навіна, аб якой мы першы раз чуем з „Віленскіх Лістаў“ п. Обста. Калі ў Вільні няма беларусаў, значыцца, гэтые расейскіе эмігранты перайшлі на каталіцызм і для іхніх духоўных патрэб аддадзены касьцёл Боніфратраў?

Але не! Мы пацешым „Rzeczpospolita“у, што

---

плача—(да дзіцяці). Ааа—ціха, ша! сьпі, малюсянькі! (да Васіля). Ён ужо пэўне есьці захацеў, ён заўсёды ў гэтую пару есьці хоча... Васіль! Запалі сьвечку і падагрэй малако...

ВАСІЛЬ (запаляе сьвечку, налівае малака з бутэлькі ў саганок, ставіць у печ і прабуе распаліць агонь) А каб цябе чорт! Трэскі мокрые, ня хочуць гарэць!

ЯДЗЬКА (да дзіцяці працяжна быццам пяючы). Ааа, ціха, ша! Ааа! дастанеш малачка, ааа, зараз, зараз, падагрэе татачка... Вось хутка, хутка ўжо сагрэіцца малачко... (калыша дзіця на руках).

ВАСІЛЬ (седзючы на падлозе перад печкай, раптам пачынае сьмяяцца).

ЯДЗЬКА (зьдзівіўшыся). Чаго ты?

ВАСІЛЬ. Ха-ха-ха! Калі-б гэта апісаць у якойсьці повесьці, або паказаць на сцэне—дык людзі сьмяяліся-б, ня верылі-б...

ЯДЗЬКА. Што-ж тут сьмяшнога? Што тут дзіўнага?

ВАСІЛЬ (далей сьмяецца нэўрастэнічна). Ха-ха-ха! Жонка хворая ляжыць на бярлогу з галодным дзіцянём у халоднай хаце прыяцель пайшоў у шулерню, каб дабыць пару марак, а тут вось перад пагасшай печкай той, хто маніцца новы шлях церабіць у заглохшым гушчары—беларускі паэт!.. Ха-ха-ха!..

За сцэнай чуваць, як пехта памалу ідзе па ўсходах і сьвісьціць якуюсь мэлёдыю.

ЯДЗЬКА. Ціха! нехта, здаецца, ідзе...

ВАСІЛЬ (прыслухоўваецца). Костусь па ўсходах ідзе... сьвісьціць... Але што-ж гэта ён так рана? Мусіць прайграўся ў шчэнт?

## Зьява 13.

ТЫЕ-Ж і КОСТУСЬ.

Уваходзіць Костусь з пачочкамі.

ВАСІЛЬ (да Костуся). Ну, брат! Першае і самае важнае: можа ты прыпадкам маеш сьвечку?

КОСТУСЬ (усьмяхаючыся). Прынёс. (кідае на стол цэлую пачку).

ВАСІЛЬ (вынімаючы адну сьвечку, запаліваезе яе). Што? Цэлы фунт? О, Божа мой! Буду пісаць праз усю ноч!.. (скора гавора). Ну, што? значыцца шчасьліва? значыцца ўдалося? выйграў?

КОСТУСЬ (нічога ня кажа, толькі ўсьмяхаючыся выцягівае з розных кішэняў грошы і кідае на стол).

ВАСІЛЬ. О, Божа! Што гэта!.. Фу, ты чорт!.. Я хіба звар'яцеў? Хіба гэта галюцынацыя?.. Ядзька! Глянь! Бачыш гэта?

беларусы ў Вільні покуль-што яшчэ ня маюць свайго касьцёла. І п. Обст аб гэтым добра ведае, але мусіць захацеў напалохаць чытачоў „Rzeczpospolita"ы „беларускай небясьпекай".

У газэце „Kurjer Polski" (№ 95) надрукавана стацьця „У справе Віленшчыны і крэсовай палітыкі", ў якой аўтор апісываючы, тутэйшые нацыянальные адносіны, між іншым кажа гэтакіе справядлівые словы:

„На беларускую зямлю нанаехалі ўраднікі, з якіх адны зусім ня ведаюць тутэйшых адносін, іншые—глядзяць на беларускі рух па-эндэцку. На іх пагляд усё тое, што мае на мэце нацыянальнае адраджэньне беларусаў, гэта штучная агітацыя і маскоўска-жыдоўская інтрыга або проста бальшавізм.

„Дык вось ёсьць ваколіцы, гдзе адміністрацыя пераследуе гэты рух, беручы прымернік з мінулых царскіх мэтодаў. Зачыняюць часопісі, разганяюць таварыствы, не даюць дазволу адчыняць школы—вось факты, якіе штораз часьцей выклікаюць нездаволеньне.

„А рэзультатаў гэтай палітыкі ня прыдзецца доўга чакаць. Ужо цяпер спатыкаем людзей, якіе год назад былі найшчырэйшымі прыяцелямі Польшчы, а цяпер зыходзяць на цёмные дарожкі конспірацыі. Пачнецца тайная асьвета, тайные табарыствы і тайная прэса..."

Далей, кажучы аб беларускім адраджаньні, п. Б. Г. (аўтор памянёнай стацьці) піша:

„Трэба ўрэшці зразумець, што беларускі рух ёсьцьзьявішча нормальнае, канешнае. Беларусь адродзіцца гэтак сама, як адраджаецца Украіна, Літва, як шмат раней адрадзілася Чэхія. Дарма будуць нам даказваць розные вучоные, якіе навуку дапасоўваюць да часовых заказаў такіх ці іншых палітыкаў: Беларусь, ня гледзячы на ўсе іхніе доказы, мае свой асобны нацыянальны воблік. Яе няпэрашні эмбріональны стан, ды тое, што яна з боку культурнага спазьнілася, не павінно нас абмыляць"...

Гэты цьвярозы і спагадлівы для справы беларускай голас „Kur. Pol." не спадабаўся «Gaz. Wilenska»й, якая ў адказе на памянёную стацьцю між інш. піша гэтак:

„Выбачайце паны з Варшавы, але мы на нашым грунце аб гэтай (беларускай) справе, як аб роўнаважнай з справай польскай, ня чулі. Мы толькі чулі прозвішчы беларускіх дзеячоў, але аб беларускім народзе—не".

Браво!

Ня гледзячы на рожніцу сваіх палітычных напрамкаў,—у справе беларускай „Gazeta Wilenska" можа падаць ручку пану Іоганну Обсту і згодна пратанцаваць pas de deux.

Танцавала рыба з ракам...

* * *

Што за звук ды так громка раздаўся  
Па лугох, па палёх і лясох,  
Высока аж пад неба падняўся  
І са стогнам прапаў ў аблаках.  
Можа вецяр у лесе так выць,  
Ці старая бяроза скрыпіць?  
Ці сава—няхай Бог таго крыць—  
На пагібель у лесе крычыць.

---

ЯДЗЬКА (абапёршыся на ложка, глядзіць нагэта шырока распяюшчанымі вачыма).

ВАСІЛЬ (да Костуся). Дык, чалавеча! Кажы-ж ты нешта! Што-ж ты маўчыш бяз сэнсу і сьмяешся?..

КОСТУСЬ. Не марнуй час!.. Распакуй усё гэта... Нарыхтуй банкет... (дае пакунак).

ВАСІЛЬ (разьвязвае). Што гэта, браток?... Гэта хіба сон! Каняк!.. Кансэрвы!.. Ванііліна!.. Сыр!.. Какао!.. Белые булкі!.. Што гэта? скуль гэта? Няўжо ты гэтак многа адразу выйграў?

КОСТУСЬ. Адыграўся ўсё, што праіграў за год ды яшчэ з гакам... (яшчэ выкідае з кішэняў грошы).

ВАСІЛЬ. Ах, каб цябе!.. Костусь! што ты кажаш!? Гэтулькі грошай! Во глянь-це!—ён яшчэ цягне! Калі-ж канец?—Во і яшчэ!.. Да душы!.. Што-ж гэта?!

КОСТУСЬ. Вось ужо ўсё!.. Пасьля будзем рахаваць... А цяпер давай чарку... Будзем піць (налівае) За здароўе пані гаспадыні, каб скарэй выздараўлівала!

ЯДЗЬКА. Дзякую вам.

ВАСІЛЬ (п'е). Ну за шчасьлівейшае жыцьцё ў новай хаце!.. А можа і ты, Ядзенька, выпьеш поў чаракі?—падмацуешся...

ЯДЗЬКА. Не, не,—я піць ня буду.—Васіль! ты-ж забыўся, што трэба падагрэць малако.

КОСТУСЬ. Зараз прыйдзе старажыха, я заплоў да яе, заплаціў ей што трэба і сказаў, каб прыйшла сюды спечы нам яешню... А вось ужо ідзе і яна..

## Зьява 14.

ТЫЕ-Ж і СТАРАЖЫХА (ўваходзіць).

ВАСІЛЬ. Вось добра... Ну, цётка, бярэцеся за работу! Распалеце вагонь, бо я не патрапяю, грэйце малако вось ў гэтым саганчыну, а пасьля возьмемся за яешню... Ну, покуль што, Костусь выпьем яшчэ па аднэй чарцы!

СТАРАЖЫХА. Я зараз... Як маланкай спаліць...

КОСТУСЬ. Налі!

ВАСІЛЬ (налівае). Браток!... Трэба запаліць яшчэ адну сьвечку... Добра? — Хай будзе сьветла, ясна, весела... (запалівае сьвечку). Вось паставім адну тутака каля Ядзькі... Або не! Давай, брат, яшчэ адну запалім, паставім яе вось тут на стале... Далоў цемру!—Хай жыве сьвятло!.. І яшчэ адну... вось тут!..

ЯДЗЬКА. Ды што ты якійсь шабас тут устрайваеш... Пан Костусь купіў для сябе сьвечак, а ты хочаш спаліць усё ў адзін вечар...

Можа маці над трунвай галосіць,
Гдзе схаваны міленькі сынок?
Можа ласкі у Бога там просіць
Бедна дзеўка, згубіўшы вянок?—
О, ня то! гэты стогн быць ня можа,
Каб з грудзі ён выходзіў аднэй.—
То увесь наш народ гэтак стогне
Над няшчаснаю доляй сваей.
Есьць і рукі, і шчырай ахвоты
Нам ня бракла да працы ніколі,
Але негдзе найсьці нам работы...
Ох, ня будзе нам хлеба, ні солі.
Мал надзел ад дзядоў нам астаўся,
Раздзяліві сыны і яго,
А цяпер—глянь—як вузенек стаўся:
Два шагі тут у шыр усяго...

А. Гурыновіч.

# Пагроза з усходу.

У № 98 „Rzeczpospolita“ п. С. Строньскі ў стацьці „Украінскіе гульні“, апіраючыся на парыжскую газэту „Le Temps“, піша:

„У Парыжы ізноў безпакояцца п. п. Савінкавым, Балаховічам, а галоўным чынам Пятлюрай. Самая асьцярожная і найляпей з міжнароднымі справамі абзнаёмлелая газэта, „Le Temps“, паведамляе, што некаторые польскіе вайсковые колы далей ткуць лятуценьні аб Беларусі, а галоўным чынам аб Украіне...

„Было-б вельмі добра, калі-б наш Урад цяпер ужо зусім пакончыў з гэтай гутаркай, узгадаванай нажаль безупыннымі мутнымі політычнымі настроямі рожных недаваранных або лішне мудрых політычных гуртКоў, у якіх пакутуе невылечаная, моў надта глыбокая думка, што для Польшчы выгодна ўтрымаць няпэўнасьць і шахаваць Расею, ці савецкую, ці іншую, гэтай украінскай справай“.

Далей п. Строньскі супакайвае чытачоў, што на Украіне ніякага паўстаньня няма, што „там зусім спакойна. Паўстанскага руху на Украіне няма і наогул ён не магчымы“.

„Але—далей гаворыцца—на пограпічу ідзе гоман, што ўкраінскіе аддзелы п. Пятлюры ізноў вырастуць з пад зямлі... Адным словам якбы гэта не назваць—ці дагадкамі, ці падазрэньнямі, ці выдумкамі, паветра як перад бурай..,“

Уапраўды ў гэтым пан Строньскі не памыляецца: паветра як перад бурай. Паветра як перад бурай, бо гэтую буру пасеяў Рыжскі трактат. Ні украінскі народ, ні гэтак сама, мы беларусы, ніколі ня прызнаем гэтага трактату, які разрывае жывое цела беларускага і ўкраінскага народаў. І дзеля гэтага Рыжскі трактат, падпісаны коштам крыўды гэтых двох народаў, выклікае на „крэсах“ Польшчы безупыннае нездаволеньне і пагрозу буры, якая раней ці пазьней загрыміць у пакрыўджаных старонках. Бо Рыжскі трактат не нясе з сабой згоднае жыцьцё народаў, а нездаволеньне пакрыўджаных.

# Палітычная хроніка.

## Пратэсты проціў Рыжскага дагавору

Старшыня Украінскага Камітэту, Маркотнін, падаў Радзе Лігі Народаў, а таксама да ўрадаў

---

ВАСІЛЬ. Ах, праўда!.. Выбачай, браток, што я так...

КОСТУСЬ. Ды палі, брат, палі, колькі хочаш!

ВАСІЛЬ. Костусь! У мяне да цябе адна просьба: які ў цябе настрой? Ці хочаш, каб я табе прачытаў кусочак сваей драмы?

КОСТУСЬ. Цяпер?

ВАСІЛЬ. Але,—вось покуль будзе яешня...· Будзем піць, а я буду табе чытаць...

КОСТУСЬ. Ну, чытай.

ВАСІЛЬ. Вось перш-на-перш я табе скажу, як выглядае сцэна... Вялікі, разумееш, пакой, з вялікімі шкляными вокнамі на апошнім пляне... За вокнамі рэфлектор; яркі чырвоны сьвет падае праз вокны на сцэну... Відаць удалёчку возера... Возера шуміць...

СТАРАЖЫХА. Панічка! Малако ўжо падагрэлося... Куды яго паставіць?

ЯДЗЬКА. Давайце сюды... Васіль! Хадзі сюды, памажы мне пераліць малако ў бутэльку...

ВАСІЛЬ (*кідае сшыток са злосьцю на падлогу*). Ах, Божа мой! Заўсёды мне нешта перашкодзіць!!...

Заслона.

## АКТ II.

Дэкарацыя тая-ж самая, як і ў 1-ым акце, толькі сцэна ўжо прыбрана: відаць, што людзі ўжо закватэраваліся.

Каля ложка стаіць простая драўляная калыска, у якой ляжыць дзіця. На услончыку стаіць балея, у каторый Ядзька мые бялізну. На вяроўцы, прыцягнутай між сьценкамі сушацца пялёнкі.

### Зьява 1.

ЯДЗЬКА, пасьля ПАУЛІНА.

ЯДЗЬКА (*над калыскай*). Ну, ціха ляжы, вось маеш бутэльку з малаком, — і не перэшкаджай сваей маме працаваць. Мама табе кашульку памые, пялёнкі памые, каб ты быў чысьцянькі, прыгожанькі... Ну, ціха! (*ідзе да балеі і мые бялізну*).

Чуваць стук у дзьверы.

ЯДЗЬКА. Калі ласка...

ПАУЛІНА (*уваходзіць*). Добры дзень, Ядзька!

ЯДЗЬКА. А! Паўліна!... (*цалуюцца*).

ПАУЛІНА. Ну, ледзь я знайшла вашу кватэру! Вось жа высака забраліся!.. Ну, кажы-ж, што ў вас чуваць? Так даўно ня бачыліся!

ЯДЗЬКА. Што чуваць!.. Ал ліха ціха, дабра не відаць — як той казаў... Чаму-ж ты ніколі не

Антанты пратэст процiў Рыжскага дагавору, як нязгоднаму з этнографічнымі граніцамі Украіны.

Польская Народная Рада беларускіх зямель надала маршаяку Тромпчынскаму пратэст процiў ратыфікацыі Рыжскага дагавору, пакінуўшага $1\frac{1}{2}$ мільёна палякоў за межамі Польскае Дзяржавы.

## Ці можна ім верыць?

Бальшавікі гвалтам мобілізуюць у Менску моладзь спаміж польскіх эмігрантаў і ўцекачоў, якіе там чакалі сваей чаргі, каб выехаць да Польшчы. Дзеля таго што гэтакі прымус, каб служыць у савецкім войску, не згаджаецца з падпісаным у Рызе мірным дагаворам, польскі ўрад зажадаў, каб справа была прасочана, каб вывезяные ўцекачы былі вернены назад і каб гэтакіе факты больш не паўтараліся.

---

Дзеля таго, што хутка павінна адчыніцца польска-бальшавіцкая граніца, шмат палякаў прыежджае ў Менск, каб адтуль вярнуцца на сваю бацькаўшчыну. І вось тут менская чрэзвычайка мае шмат „работы“.

Гэтак нядаўна арыштавалі нейкага С. Букоўскага, які прыехаў з сваёй сямьёй з Тамбова. Калі яго жонка пайшла даведацца, што зрабілі з яе мужам, ей адказалі, што ён растрэляны. Што ўзапраўды з ім сталася—няма ведама. Жонка з дзіцянём засталася бяз хлеба, бо, арыштаваўшы Букоўскага, чрэзвычайка забрала ўсе іхніе грошы.

---

Польскі віца-міністр Домброўскі зьвярнуўся да савецкай улады, каб, згодна з умовай, якая зроблена польскай і расейска-ўкраінскай дэлегацыяй, за высланых у Расею камуністаў былі вернены ў Польшчу кс. біск. Лозінскі, сябра дыплёматычнай місіі Філіповіч і інш. Бальшавікі аднак дагэтуль нічога не адказалі і трымаюць усе памянёные асобы ў бутырскай турме ў Маскве.

---

Бальшавікі, ня гледзячы на мірную ўмову, занялі Рополю і Пораярві ўва ўсходняй Карэліі. Тутэйшую міліцію разагналі. Бальшавіцкая гандлёвая дэлегацыя сарвала перэгаворы з фінляндзкім урадам.

У мінулым тыдні attache фінляндскага прадстаўніцтва ў Маскве быў прыведзены міліціанэрамі ў камісарыят, гдзе яго дапытывалі 2 гадзіны і толькі пасьля гэтага пусьцілі дамоў.

---

„Руль“ паведамляе, што савецкі ўрад падаў да ведама галоўнай каманды французкага войска ў Канстантынопалі, што аб'яўляе амністыю для афіцэраў і жаўнераў ген. Врангеля і пазваляе ім прыехаць у Расею.

Будзе работа для чрэзвычаек!

---

## Разруха у Расеі.

Разруха ў Расеі, ня гледзячы на мора крыві, ў якім топіць яе ўрад Леніна і Троцкага, не спыняецца. Тэлеграмы кожны дзень прыносяць вестку аб новых і новых паўстаньнях.

Апошніе весткі кажуць, што вайсковые аддзелы пад загадам Антонова, якіе дагэтуль складаліся з партызанаў і тэрорыстаў, пачынаюць арганізавацца. Антонаў утварыў ужо 10 палкоў, якіе падлягаюць цэнтральным акругавым штабам і змага-

---

прыйшла да мяне, як я ляжала ў бальніцы? Думала, што заглянеш.

ПАУЛІНА. Ах, не паверыш, як я занята, ніколі свабоднай часіны. Вось і цяпер, толькі на адзін мамэнцік.. трэба сьпяшацца.. Прасілі мяне, каб я памагла наладзіць дабрачынную лётэрыю. Заўсёды, як якійсьці дабрачынны вечар або лётэрыя—да мяне зьвяртаюцца. Я на гэта майстра... Што-ж ты тут мыеш, бедненькая?

ЯДЗЬКА. Вось мыла пялёнкі.., Бяда з гэтым. Парвала на пялёнкі дзьве старые кашулі Васілька і адну сваю—і яшчэ мала.

ПАУЛІНА. Ну, кажы-ж, якжа цяпер тваё здароўе?

ЯДЗЬКА. А ўжо з кожным днём лепей, з кожным днём мацнею. Каб я далей ляжала ў гэтай праклятай бальніцы, дык напэўна дагэтуль-бы яшчэ ня ўстала з ложка... Ах, што я там нацярпелася, ня дай Божа нікому!..

ПАУЛІНА. Ну, а як-жа малы гадуецца?

ЯДЗЬКА. Ах, ты яшчэ ня бачыла! О, глянь, Паўлінaчка, які прыгожы!.. Кажуць, што падобны да мяне, асабліва вочы,—ці праўда?

ПАУЛІНА. Але, падобны... (*б а в і ц ц а з д з і ц я н ё м*). Ой, ті, ті, ті!.. О, які вясёлы хлапчуга! Сьмяецца!..

ЯДЗЬКА. О, ён ужо даўно ўмее сьмяяцца.. Дзіва, якое супакойнае дзіця! плача толькі тады, калі есьці захоча.

ПАУЛІНА (*р а з ь в я з в а е к л у м а к, к а т о р ы п р ы н е с л а*). А я табе тут падарунак прынесла... Ведаю, што ў цябе няма зімовага паліта, а цяпер мароз, дык вось я табе аддам сваё старое.

ЯДЗЬКА. Ах, дзякую, Паўлінaчка, але якжа-ж так?.. Можа табе будзе яшчэ патрэбна?

ПАУЛІНА. Не, я яго ўжо ня буду насіць,—надаело. Ну, апрані, ці добра будзе? Калі трэба будзе перэрабіць, дык я ведаю адну добрую швачку, яна дорага ня возьме. Калі ня маеш грошай, дык я табе на швачку пазычу.

ЯДЗЬКА (*а п р а н а е ц ц а*). Не, зусім, здаецца, будзе добра... Шкада, што ў нас няма вялікага люстра, каб паглядзець... Глянь ты, Паўліна! Як?

ПАУЛІНА. А ведаеш, што бязмала, што добра. Я, як заказвала шыць сабе гэтае паліто, была крыху худзейшай чымсь цяпер — і вось на цябе яно якраз. Вось тут толькі ў таліі трохі моршчыцца, але гэта глупства, тут трэба трошкі ўрэзаць і пад пахамі крыху сьцягнуць — невялічная папраўка і будзе добра.

(Працяг будзе).

юнца са 100-тысячнай чырвонай эрміяй. Паміж чырвонаармейцамі настрой няпэўны, відаць змораньне. У пачатку лютага вайсковые аддзелы Антонова былі ўжо ў 7 вярстах ад Тамбова, гдзе яны спаймалі павятовую чрэзвычайку і ўсіх яе супрацоўнікаў растрэлялі. Паўстаньне, быўшае раней безпляновым, цяпер разьвіваецца паводле пляну. Паўстаньне разьліваецца ўсё шырэй ды шырэй.

Ува ўсходняй частцы Валыні і заходняй частцы Падолі плянова разьвіваецца шырокая дзеяльнасць невялічкіх аддзелаў галоўнага паўстанскага народнага камітэту на Украіне, Валыні і Падолі, які знаходзіцца ў Старым Канстантынаве. Вялікшые паўстнскіе аддзелы, адступіўшы пад напорам бальшавіцкіх сіл, злучыліся ў Валынскіх лясох і на лініі Зьвягэль—Шэпятоўка—Стары Канстантынаў—Пласкіроў, разам з аддзеламі галоўнага Камітэту Валыні і Падолі разьбілі бальшавікоў.

---

# Беларуская хроніка.

## Беларуская сэмінарыя у Барунах.

Улада, значыцца, „зьлітавалася“ над беларускай сэмінарыяй у Барунах і яшчэ покуль што не зачыняе яе, пазволіўшы весьці навуку да 15 мая. Гэткім чынам сэмінарыя 15 мая павінна будзе закончыць свой вучобны год.

Цікаўна адзначыць, колькі часу будзе трываць вучэбны год у беларускай сэмінарыі. Па незалежным ад беларусаў прычынам навука ў сэмінарыі пачалася толькі 21 лютага і трывала да 14 сакавіка, г. зн. да таго дня, калі яе часова зачынілі. Ключы былі зьверняны назад 7 красавіка, а навука павінна ўжо быць закончана 15 мая. Гэткім чынам: ад 21 лютага да 14 сакавіка—3 тыдні, а ад 7 красавіка да 15 мая—5 тыдняў— і ўсяго вучобны год будзе трываць... 8 тыдняў!..

На 9-ёх пэтыцыях да ген. Mokжэцкага аб тым, каб сэмінарыю не перанасілі ў іншае месца, а пакінулі ў Барунах, было сабрана 752 подпісы. Відаць, у справах беларускіх воля насяленьня ня мае ніякага значэньня, бо галасы беларусаў ня ёсьць мабыць „głosy ziemi synów“.

## Беларускі тэатр.

У чацьвер 21 красавіка ў Гарадзкой салі адбудзецца спэктакль на карысьць незаможных вучняў беларускіх школ. Пастаўлена будзе пьеса ў 3 акт. са сьпевамі і танцамі „Птушка шчасьця“ Ф. Аляхновіча.

Сюжэт пьесы вельмі просты і нясложны. Янка і Маланка наракаюць на свой лёс, вінавацячы ўва ўсіх няшчасьцях прабацькоў сваіх — Адама і Эву, якіе ў раю сарвалі яблык з забароненага дрэва.

Сюжэт гэты вельмі стары і ў нас пабеларуску быў першы раз апрацаваны ў XVIII сталецьці праз айца езуіта Каетана Марачэўскага, прафэсара рэторыкі ў гімназіі Забельскіх у Вільні. Выкарысталі гэту ўдзячную тэму і французы ў мінулым сталецьці ў водэвілі „Le pomme de Paradis“.

„Птушка шчасьця“ Аляхновіча—гэта нанова апрацаваная тэма, перанесеная на сучасны беларускі грунт с куплетамі, напісанымі на беларускіе народные мэлёдыі.

Цікаўна адзначыць, што ў Менску бальшавікі забаранілі іграць „Птушку шчасьця“ дзеля таго, што паміж іншым пэрсонажам пьэсы ёсьць жыд.

У 2-м акце ўведзены балет — танец русалак.

Прграму вечара закончыць канцэрт Славянскага хору, які прапяе колькі беларускіх народных песьняў.

Пасьля гэтага пачнуцца розные гульні і танцы да 5 гадз. раніцы.

## Беларусы на чужыне.

25-га сакавіка было адсьвятковано ў Лодзі працаўнікамі Бел. Вайск. Камісіі і войскам гадаўшчына апавешчаньня незалежнасьці Беларусі. А 10-й гадз. раніцай I-шы батальён стральцоў быў спыхаваны на пляцы казармаў і агледжаны Камандуючым Беларускімі Вайсковымі Аддзеламі. Пасьля ўсе быўшые на месцы жаўнеры і афіцэры былі на памяткі сфотографованы.

А 12-й гадзіне паручнікам Косьцевічам быў прачытаны гадзінны рэфэрат па гэткай праграме:

1. Прычыны пабудзіўшые Раду Рэспублікі незабаўна выдаць акт. 25. III. 1918.

а) адмова Старшыні Расійскае Савецкае делегацыі на Берасьцейскай конфэренцыі з немцамі, Троцкага, візаваць праезд у Бярэсьце Беларускай Дэлегацыі на мірную конфэрэнцыю і рашэньне лёсу Беларусі без яе прадстаўнікоў;

б) няяснасьць у рабоце Рады, дзякуючы моцным уплывам масквафільскіх элементаў, што ўвайшлі ў Раду ад земскіх і гарадзкіх самаўрадаў;

в) узмацненьне нацыянальнага элементу прыездам у Менск—сталіцу Рады — прадстаўнікоў Віленскай Беларускай Рады.

2. Ноч з 24 на 25 сакавіка 1918 г. ў Радзе Рэспублікі:

а) трыбунная барацьба (больш як 20 аратараў) па пытаньню аб аглашэньні незалежнасьці;

б) непраклонная воля беларускага (самастойніцкага) элемэнту, згуртованага вакол „Беларускай Сацыялістычнай Грамады“ выдаць акт аб незалежнасьці;

в) апошніе стараньні масквафільскіх элемэнтаў аслабіць сілу акту 25 сакавіка прапазыцыяй аб фэдэрацыі з Расеяй. Тры пяцьмінютные пярэрвы ў пасяджэньні перад галасаваньнем. Напіраньне расейцаў і жыдоў на пункт рэзалюцыі Усебеларускага Конгрэсу аб „неотторжимости“ Беларусі ад Расеі;

г) прыняцьце рэзолюцыі аб незалежнасьці й выхад масквафільскіх элемэнтаў з Рады Рэспублікі.

3. Устаўная грамата Рады Рэспублікі 25 сакавіка 1918 году і яе значэньне ў беларускім руху.

Гістарычная грамата 25.III была выслухана усімі, стоячы. Пасьля рэфэрату ўсе сьпялі гымн „Адвеку мы спалі“...

(„Б. Д.“)

## Беларусазнаўства у сэмінарыі.

Беларускі Камітэт у Вільні на сваім агульным паседжаньні 11-га красавіка 1921 г. разгледзіў справу аб выкладаньні беларусазнаўства ў праваслаўнай сэмінарыі. Справа гэтая паўстала праз рэзалюцыю Беларускага Вучыцельскага Саюзу і адказу на яе рэктара сэмінарыі п. В. Багдановіча. Пасьля прамоў грам. Я. Станкевіча (старшыні Вуч. Саюзу), грам. М. Яцкевіча (курсант-багаслоў сэмінарыі) і інш., Камітэт аднагалосна пастанавіў: дамагацца ад рэктара сэмінарыі п. В. Багдановіча,

каб выкладаліся лекцыі беларускае мовы і беларусазнаўства; паслаць каталіцкаму біскупу заяву аб патрэбе выкладаньня беларускае мовы і беларусазнаўства ў каталіцкай сэмінарыі ў Вільні

(„Б. Д.“)

## Бібліаграфія.

**Янка Купала**, белорусский поэт.

Наша рэдакцыя атрымала выданы ў Маскве бальшавікамі зборнік вершаў Купалы, пераложаных на расейскую мову выдатнейшымі сучаснымі расейскімі паэтамі, як: Белаусов, Брюссов, Корінфскі, Нечаев, Устінов і інш. У кніжцы памяшчаецца больш за 60 вершаў нашага паэта, якіе папераджае яго біаграфія. Выбар вершаў не зусім удачны, дзеля таго, штө ў зборніку прапушчана шмат выдатнейшых вершаў Купалы, а надрукавана многа меншай вартасьці. Але пераклады зроблены вельмі добра і ухапліваюць усюды дух перакладзенага твору. Есьць навет пераклады, якіе зусім ня горшые за Купалаўскіе арыгіналы, калі возьмем для прыкладу вядомы верш „Наша песьня“ (пераклад Устінова).

Аўтор біаграфіі паэта ў першых словах кажа гэтак:

„Расейская чытаючая публіка надта мала знаёма з беларускай літэратурай наогул, а асабліва з беларускай паэзіяй. Хіба толькі на этнографічных канцэртах, гдзе пяюцца песьні розных народаў, можна пачуць і беларускіе песьні. Але гэтые песьні—прадукт народнае творчасьці — невядомых аўтораў; а ў беларускага народу ёсьць і сваяя мастацкая літэратура; праўда, яна блізка да народнае творчасьці, і кожнага беларускага паэта можна назваць народным паэтам: гэтак па форме і па ўнутранаму зьместу творы сучасных беларускіх паэтаў блізкі да народных песьняў і думак“..

Аўтор гэтых слоў, відаць, ня зусім добра ведае сучасную беларускую літэратуру, дык абмыляецца, кажучы, што „к о ж н а г а беларускага паэта можна назваць паэтам народным“. Есьць творы, якіе далёка ўжо за сабой пакінулі той час, калі пясьняр пяяў на „нясложные мотывы, браў простые сюжэты“.

Але гэта няважна. Важна адзначыць той факт, што расейскіе пісьменьнікі зацікавіліся ўрэшці беларускай літэратурай — і першая спроба перакладу нашых твораў выйшла ўдачнай.

Жаль толькі, што іншые нашы суседзі дагэтуль не зацікавіліся беларускай творчасьцю і не пазнаёмілі сваё грамадзянства з выдатнейшымі літэратурнымі творамі таго народу, які здолеў шмат гадоў аддаваць свае лепшые інтэлектуальные сілы на службу для чужых культур, укладываючы ў іх багацьце свайго духу, а цяпер кліча ўсіх сыноў сваіх працаваць для роднай справы.

Пазнайце нас, а пасьля кажэцца аб нас!

а.




### Сьмяхотны куток.

Было гэта летась у Мечску. Адзін ураднік Зажондў Усходніх Зямель кажа да другога:

— Беларусы—яны ўсе бальшавікі...

— ?

— Во—гляньце, паночку, (паказвае нумар газэты „Беларусь“)—яны ня пішуць ані „ять“, ані „цьвердага знаку“... Бальшавікі!—

Аўтэнтычна.









Друкарня „ДРУК“, Вострабрамская, 5. Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ.